*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 37 (1084) 12 ВЕРАСНЯ 2012 г.


## 20-годдзе прысягі на вернасць Беларусі




20 гадоў назад 8 верасня 1992 года ў Менску група афіцэраў Узброеных Сіл СССР і афіцэраў запасу прыняла прысягу на вернасць Беларусі. Гэта была першая ад часоў БКА прысяга на беларускай мове. Прысяга мела велізарнае ідэалагічнае значэнне і безумоўна спрычынілася да таго, што прысягу на вернасць Беларусі без асаблівых хістанняў прынялі ўсе Ўзброеныя Сілы краіны 31.12.1992 года.

## Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч выказаўся ў падтрымку беларускай мовы

1 верасня гэтага года Міхаіл Мясніковіч прыняў удзел у адкрыцці новай менскай школы № 42 ў раёне Каменная горка. Падчас сустрэчы з настаўнікамі школы ён запатрабаваў, каб настаўнікі актыўней карысталіся беларускай мовай. І сказаў літаральна наступнае: *"Хутка будзем вывучаць беларускую мову як замежную... Не трэба даходзіць да крайнасці, але варта зрабіць так, каб было хаця б двухмоўе"*. Міхаіл Мясніковіч выказаў меркаванне, што магчыма нашы дзеці хутка будуць ведаць англійскія словы лепей за беларускія. На што настаўнікі яму адказалі: *"А як тут двухмоўе ўвесці, калі ў нас у раскладзе тры гадзіны замежнай мовы і толькі адна - беларускай?"*

Ад сябе дадамо, што было б добра, каб прэм'ер-міністр падтрымаў міністра адукацыі з яго ініцыятывай аб пераходзе ва ўсіх школах Беларусі незалежна ад мовы навучання на выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі пабеларуску. Тады б і колькасць гадзін на маўленне на дзяржаўнай беларускай мове ў школе вырасла б.



*Матэрыял падрыхтаваны на аснове публікацыі Алены Васільевай у "Белгазеце" ад 3 верасня, с. 19.*

## У Лідзе кандыдаты ў дэпутаты атрымалі наказ ад ТБМ

5 верасня ў Лідзе падчас сустрэчы жыхароў горада з кандыдатамі ў дэпутаты ў Палату прадстаўнікоў парламенту Беларусі, якая адбывалася ў СШ № 8, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ГА ТБМ імя Ф. Скарыны Станіслаў Суднік уручыў кандыдатам праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь", прыняты апошнім з'ездам ТБМ, і перадаў наказ ад Лідскіх арганізацый ТБМ, каб той кандыдат, які пераможа на выбарах, вынес гэты праект Закона на разгляд Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Дарэчы рашэнне аб такіх даручэннях кандыдатам у дэпутаты прымаў той жа з'езд ТБМ, і ў іншых гарадах Беларусі павінна рабіцца тое ж самае, а то адной Ліды можа быць замала. Варта нагадаць, што праект Закона быў апублікаваны ў газеце "Наша слова" № 1 за 4 студзеня 2012 года.

*Наш кар.*


ISSN 2073-7033




## 100 гадоў з дня нараджэння Максіма Танка

**Танк Максім** (сапр. Скурко Яўген Іванавіч), нарадзіўся 17.09.1912 г. у вёсцы Пількаўшчына Мядзельскага раёна Менскай вобласці ў сялянскай сям'і.






*Нацыянальны банк Беларусі 29 жніўня ўвёў у абарачэнне памятныя манеты "Максім Танк. 100 гадоў": срэбную - наміналам 10 рублёў, пробай сплаву 925, масай 16,81 г, дыяметрам 37 мм; меднанікелевую - наміналам 1 рубель, масай 19,50 г, дыяметрам 37 мм.*

Народны паэт БССР (1968).

Друкавацца пачаў у 1932 г. у часопісе "Пралом" (выдаваў з паэтам Я. Гарохам), "Часопісе для ўсіх", газетах-аднадзёнках "На пераломе" і "Беларускае жыццё". Першыя кніжкі паэзіі выдаў у Вільні: "На этапах" (1936, факсімільнае ў 1983, Менск), "Журавінавы цвет" (1937), "Пад мачтай" (1938), паэма "Нарач" (1937). У Менску выдадзены "Выбраныя вершы" (1940), рукапіс наступнага зборніка і сцэнарыя "Бура над Нараччу" загінулі ў час вайны, "Янук Сяліба" (паэма, 1943), "Вастрыце зброю" (вершы і паэмы, 1945), "Праз вогненны небасхіл" (1945), "Выбраныя вершы" (1947), "Вершы" (1947, 1948), "Каб ведалі" (1948), "На камні, жалезе і золаце" (1951), "Выбраныя творы" (1952, 1954), "У дарозе" (1954), "След бліскавіцы" (1957), "Мой хлеб надзённы" (1962), "Лірыка" (1963), "Глыток вады" (1964), "Селядцы з вершамі" (гумар, 1966), "Вершы" (1967), "Ключ жураўліны" (1972), "Хай будзе святло" (1972), "Дарога, закалыханая жытам" (1976), "Вершы" (1979), "Прайсці праз вернасць" (1979), "Лірыка" (1982), "За маім сталом" (1984), "Лірыка" (1987), "Дарога і хлеб" (1988), "Збор калосся: Вершы 1983-1988" (1989), "Паслухайце, вясна ідзе" (1990). Для дзяцей напісаў кніжкі вершаў "Галінка і верабей" (1946), "Кніжка пра мядзведзя" (1947), "Вершы" (1948) і інш.




*(Пра Максіма Танка чытайце на ст. 2 і 5.)*


## УЛАДЗІМІРУ СОДАЛЮ - 75



**СОДАЛЬ Уладзімір Ільіч** (13.11.1937 м. Мормаль Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.), пісьменнік, літаратардаследчык. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (1996). Удзельнік устаноўчых з'ездаў БНФ і ТБМ. Сябар рэспубліканскай Рады "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", рэдкалегіі газеты "Наша слова" і ТБШ. Скончыў Менскі педагагічны інстытут (1963). Працаваў загадчыкам Мормальскага сельскага клуба, электрыкам Мурманскага караблерамонтнага завода, скончыў брыгадныя курсы токараў, настаўнікам беларускай мовы і гісторыі Астрашыцкага дзіцячага сухотнага санаторыя, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Мастацтва Беларусі", рэдактарам навукова-папулярных і навучальных праграм, у тым ліку "Роднае слова" на беларускім тэлебачанні (1979 - 2000). Адзін са стваральнікаў праграмы "Роднае слова". Асноўны даследчык жыцця і творчасці Францішка Багушэвіча ў Беларусі. Даследчык жыцця і творчасці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Кастуся Каліноўскага, Янкі Купалы, Ядвігіна Ш. і Аляксандра Ўласава.


*(Пра У. Содаля чытайце на ст. 3-4.)*


***Содалю Уладзіміру Ільічу, якому 75.***

**Ці помніш, Уладзя?**

Маланка, навальніца, гром
І мы пад бэзавым кустом,
Замест былога там крыжа.
- Пад Мігаўкай Ядвігін Ша
Калісці да рубца прамок,-
Ты мне сказаў, як бы знарок.
А з неба як з вядра хто лье,
І страх-пярун пад ногі б`е...
Сушылі сонца, вецер нас,
А вандравацьімпэт не згас.
І грэў душу ў нас з табой
Размоў пра Уласава сувой.

*Мікола Лавіцкі.*

# "Я сэрцам пісаў сваю кожную песню"

17 верасня спаўняецца 100 год з дня нараджэння **Максіма Танка**, народнага паэта Беларусі, грамадскага дзеяча, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

*Я не прашу сабе спагады,*
*Ні ўзнагароды і ні ўлады.*
*Дай толькі ты маёй краіне*
*Мір і спакой пад небам сінім,*
*На бацькоўскай страсе - буслянку,*
*Шыпшынавы куст - каля ганку,*
*Калоссе шчодрае - на ніве,*
*Напеваў родных пераліве,*
*А ў засені дубровы недзе,*
*Дзе спяць мае бацькі, суседзі, -*
*Хоць непрыкметную мясціну*
*Свайму тулягу, адпачынак.*
*За што, гатоў я свой аўтограф*
*Паставіць пад любы цырограф.*
Літанія. 1991

Яго паэзія - не толькі наша гісторыя. Яна актыўна прысутнічае і будзе прысутнічаць у нацыянальным літаратурным працэсе. *"І кожнае наступнае пакаленне будзе знаходзіць, будзе браць з Яе нешта новае, адкрываць сваю старонку любові да Яе. Гэта ўжо як дотык вечнасці…"*/ Р. Баравікова/.

Сын Яна і Дамінікі з Хвалькоў Яўген Скурко - такое сапраўднае прозвішча Максіма Танка - нарадзіўся 17 верасня 1912 года ў вёсцы Пількаўшчына, на Мядзельшчыне, - у цудоўным азёрным Нарачанскім краі.

У вершы "Да аўтабіяграфіі" паэт згадваючы вядомы біблейскі сюжэт, з гумарам распавёў пра сваё, далёка не ўрачыстае, зусім будзённае, з'яўленне на свет:
*Ніякая віфлеемская зорка,*
*Ніякая планіда*
*Не абвяшчалі*
*Аб маім прыходзе на свет,*
*Як не абвяшчалі*
*Аб з'яўленні*
*Ніводнага з мужыкоў.*
*Толькі, - апавядала маці, -*
*Пачуўшы мой крык,*
*Світанак адклікнуўся пеўнем*
*Ды пратрубіла рабая карова,*
*Якую спазніліся выгнаць на пашу.*

Хто ведае, ці не былі лёсавызначальнымі ранішні спеў вясковага пеўня і трубны голас рабой каровы?! Можа, згодна з Божай воляй, гэтыя знакі і сталіся прызнаннем немаўляці сваім у сялянскім асяродку? Ці не перадаў тады певень яму натхненне, а рабая карова ці не стала сімвалам нялёгкага жыццёвага шляху, на якім хапала як светлага, так і цёмнага колераў?

*Дзень залаты*
*Цёплым сонцам заліты,*
*Лётаў матыль*
*Сінякрылы над жытам.*
*Лётаў, як сон,*
*Над калоссямі нізка,*
*Як пераззвон,*
*Над малою калыскай.*
*Слёзы мігцяць*
*Ад тугі і бяссілля,-*
*Хоча дзіця*
*Дакрануцца да крылляў.*
*Маці-жняя*
*Пацяшае малога:*
*- Доля твая*
*Яшчэ спіць на дарогах.*
*Я вось дажну*
*Паласу, сіраціна,*
*І раскажу*
*Пра палёт матыліны.*
*Будзеш і ты,*
*Сынку, лётаць высока.*
*Вось зараблю*
*Я на хлеб табе, сокал.*
Матыль. 1937.




"Узначальваў" сям'ю Скуркоў дзед паэта - Фёдар Маркавіч, заядлы паляўнічы. Сыны хадзілі на заробкі ў лес, былі плытагонамі. Аднак калі пачалася Першая Сусветная вайна, мусілі пакінуць "родны кут", пайсці ваяваць. А калі фронт прыйшоў на Мядзельшчыну, у бежанства падалася і маці паэта. Яна апынулася ў Маскве, дзе "служыла прыбіральшчыцай у сям'і нейкага палкоўніка, пазней - у "папа", а затым пайшла працаваць на ваенны завод. Тут працаваў і бацька паэта, якога перавялі ў Маскву як "майстравога".

Жыць прыйшлося недзе *"ў Ціхвінскім завулку, у нейкім падвале, з вакна якога,* - гаворыць Максім Танк, *- я мог бачыць толькі ногі праходжых. Помню, аднойчы разбудзіў мяне грукат грузавікоў. Я выбег на вуліцу і ўпершыню пачуў слова "рэвалюцыя".*

У школу хлапчука аддалі на год раней тэрміну, каб ён *"не перашкаджаў суседзям і дома"*. Тут будучы паэт пазнаёміўся з творамі выдатных рускіх пісьменнікаў. *"Першая кніга, якая зрабіла на мяне незабыўнае ўражанне,* - прыгадвае ён, *- была кніга М. Гогаля "Вечары на хутары ля Дзіканькі" і яго аповесць "Тарас Бульба"*. Потым - Пушкін, Лермантаў, Някрасаў.

На радзіму бацькі паэта вярнуліся ў 1922 годзе, калі Беларусь ужо была падзелена на Усходнюю і Заходнюю. Першую зіму хлопец сядзеў дома, вучыў польскую грамату, каб потым паступіць у школу.

Скончыўшы польскую пачатковую школу, Яўген Скурко з 1926 года працягваў вучобу ў рускай гімназіі у Вілейцы, затым - у Радашковіцкай беларускай гімназіі. З апошняй яго выключылі за ўдзел у школьнай забастоўцы, накіраванай супраць ліквідацыі беларускіх школ польскім урадам.

Адказваючы на пытанне, чаму выбраў такі незвычайны псеўданім, паэт месцамі не без жартоўнай усмешкі гаварыў: *"Ну, Максім - гэта ад Горкага, пад уплывам якога мы ўсе тады знаходзіліся. А Танк… Як многім пачынаючым паэтам, мне здавалася, што літаратурны поспех залежыць і ад гучнага псеўданіма. Свет "раслінных" псеўданімаў быў ужо, што называецца, разабраны: Колас, Чарот, Пушча, Васілёк… Мне нічога не заставалася, як пашукаць што-небудзь "жалезнае", вось я і спыніўся на Танку"*.

Найбольш раннія з вядомых нам твораў Макіма Танка адносяцца да 1931-1933 гадоў. У 1936 годзе выйшла у літаратурны свет першая кніга Максіма Танка пад назвай "На этапах". Яе шчырым, захопленым словам вітаў выдатны знаўца, збіральнік і ахоўнік роднай песні Рыгор Раманавіч Шырма: *"… гэтая маладая паэзія такая блізкая і зразумелая нам … ад яе вее свежым пахам чорных скібаў паднятай зямлі, сталёвымі адгаласкамі звонкай касы, свежым подыхам ветру з Нарачы, які сапраўдна "палошчыць кашулю-дзяругу" нашай этапнай Беларусі"*.

Вялікая Айчынная вайна застала пісьменніка ў Беластоку. Апошнім цягніком яму з сям'ёй удалося выехаць на Усход, у Саратаўскую вобласць. Адсюль паэт пайшоў на працу ў франтавую газету "За Савецкую Беларусь", якая прызначалася для беларускага насельніцтва і закідвалася ў нямецкі тыл на самалётах. У зборніках "Вастрыце зброю" і "Праз вогненны небасхіл" галоўнае месца займаюць ваенныя матывы, вобразы паланёнай роднай зямлі і Беларусі-змагаркі.

*Клубамі чорнымі дым віўся,*
*Угрызаўся ў вочы і ў раллю.*
*Мы адступалі, падпаліўшы*
*Свае сядзібы і зямлю.*
*Каб там, дзе завітае вораг*
*Або праскача яго конь,-*
*Бурлілі рэкі і азёры*
*І помсты палымнеў агонь.*
*Каб на шляхах, палях, ў акопах*
*Пакою вораг не зазнаў,*
*Каб жвір сыры, гарачы попел*
*Яго магілы засыпаў.*
*Настане дзень, баёў апошніх!*
*Мы адступілі, каб было*
*Дзе легчы ворагу на пожнях,*
*Парослых сіняй гавылой.*
*А мы шляхі вярнуцца знойдзем,*
*Як вырай іх знаходзіць век,*
*Па сонцу, што над намі ўзойдзе,*
*Па звону беларускіх рэк.*
Мы вернемся. 1941.

*На ўзгорку крутым*
*партызан паміраў,*
*На ўзгорку, дзе вецер шуміць.*
*Там воран, прысеўшы,*
*пра раны пытаў:*
*- Каторая болей баліць?*

*- Што раны мае! -*
*адказаў партызан.-*
*Іх боль хутка згасне з зарой.*
*Век будзе крывавіць*
*цяжэйшая з ран -*
*У сэрцы матулі маёй.*

*Таму я прашу цябе, воран, калі*
*Ў маёй будзеш ты старане,*
*Дзе кожнай вясной расцвітаюць палі,*
*Старой не кажы пра мяне.*

*Хай думае лепш, што здароў я і жыў,*
*Што, пэўна, сяброўку знайшоў.*
*Што я ажаніўся, пра дом свой забыў,*
*Таму не пішу ёй лістоў.*
На ўзгорку. 1954.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе пабачылі свет зборнікі Максіма Танка "Каб ведалі", "На камні, жалезе і золаце", "У дарозе". Трэба адзначыць, што ў пасляваенныя гады і наступныя дзесяцігоддзі паэт аддаў даніну камуністычнай ідэалогіі, ідэйна-палітычнай тэматыцы. Пад яго пяром, на жаль, часам нараджаліся вершы-аднадзёнкі на патрэбу дня.

Тэматычна-вобразны дыяпазон паэзіі Максіма Танка надзвычай шматгранны. Яго хвалюе ўсё, што звязана з лёсам чалавека, роднай зямлі, мінулым нашага народа, балючымі праблемамі грамадства і чалавецтва. Пра што б ні пісаў Максім Танк, ён застаецца паэтам філасофскага погляду на свет...

*Зямля трымаецца на трох сланах,*
*Сланы - на велізарнай чарапасе,*
*Чарапаха - на голубе,*
*Голуб - на хлебным коласе,*
*Колас - на калысцы,*
*А калыска - на песні матчынай…*
*І пакуль песня будзе гучаць,*
*Калыска будзе калыхацца,*
*Зерне прарастаць,*
*Голуб - віць гняздо пад страхой,*
*Чарапаха - ісці Млечным Шляхам,*
*Сланы пераступаць з нагі на нагу, -*
*Зямля будзе век*
*Зеляне́ць, зелянець, зелянець…*
Касмалогія. 1968.

*Калі закончыў Бог*
*Сваю работу*
*Збіраўся ўжо на адпачынак,*
*Да яго прыйшоў Адам са скаргай,*
*Што сонца зусім не грэе,*
*Вада - не ўталяе смагі,*
*Хлеб - горкі,*
*Птушкі - безгалосыя,*
*Травы - чэрствыя,*
*Кветкі - недухмяныя,*
*Дні - сумныя,*
*Ночы - бяссонныя.*
*І Бог*
*Стварыў жанчыну.*
*І толькі дзякуючы ёй*
*Стала можна жыць*
*На зямлі.*
Жанчына. 1989.

Асабліваe месца ў лірыцы Максіма Танка займае тэма кахання. Вершы пра каханне, напісаныя цягам усяго жыцця, сталі каштоўным набыткам беларускай паэзіі.

*Нашто ты косы заплятаеш,*
*У танцы кружыш агнявым,*
*Нашто каралі прымяраеш*
*Перад люстэркам нежывым?*

*Яно маўчыць, яно не можа*
*І сотай долі перадаць,*
*Як выглядаеш ты прыгожа,*
*Як вочы зорамі гараць.*

*Ты лепш пакліч мяне, красуня,*
*Хоць на хвіліну да сябе,*
*І мне не будзе гэтак сумна,*
*І я дапамагу табе*

*Прымерыць стужкі, завушнічкі,*
*І плечы хусткай ахінуць,*
*І лакавыя чаравічкі*
*Перад "Лявоніхай" абуць.*

*Ты ўсё мне дараваць не можаш,*
*Што, першы раз як памагаў,*
*Караляў шнур неасцярожна*
*Рукой няўмелаю парваў.*
Нашто ты косы заплятаеш. 1955.

Паэт дакладна перадае душэўна-псіхалагічны стан закаханых, нярэдка піша пра іх паводзіны з цёплым гумарам:
*Ты не ўгаворвай лепш мяне!*
*Няма сягоння часу мне*
*Глядзець, як лёд рака ўзрывае,*
*А то вось разлуюся я.*
*Яшчэ не жонка я твая,-*
*Шмат вёсен у запасе маю!*

*Ды невядома, што і як*
*Лепш апрануць у гэткі вечар.*
*А мне не трэба твой пінжак,*
*Сабе яго накінь на плечы!*

*А гразь якая! І няма*
*Дзе абысці разоры, лужы.*
*Пусці! Я перайду сама,*
*Не клапаціся, мілы дружа!*

*І не нясі, і не мілуй,*
*А то з дарогі лёгка збіцца.*
*І асцярожна! Не цалуй!..*
*Ну, як з табою не сварыцца!*
Сварка. 1955.

Максім Танк пражыў вялікае жыццё, прымусіўшы за дзесяцігоддзі сумленнай і плённай працы паважаць сябе і старых і маладых, і левых і правых. Яго нельга не паважаць, ім не магчыма не захапляцца. Чалавечы і творчы дар яго ад Бога, ён усеабдымны, чысты і светлы, дасканалы.
*Калі ў хлебе*
*Больш сілы, як хлеба,*
*Калі ў віне*
*Больш хмелю, як віна,*
*Калі ў агні*
*Больш цяпла, як агню,*
*А ў застоллі*
*Больш сяброў, як застолля, -*
*Пара пачынаць песню.*

*Калі ў хлебе*
*Больш хлеба, як сілы,*
*Калі ў віне*
*Больш віна, як хмелю,*
*Калі ў агні*
*Больш агню, як цяпла,*
*А ў застоллі*
*Больш застолля, як сяброў,-*
*Пара канчаць песню.*
Калі... 1980.

***Лідская ЦРБ імя Янкі Купалы.***






# "Сустрэцца з людзьмі старэйшага пакалення і новым пакаленням перадаць усё!"

*"Як многа сэрцам чулым*
*Вярнуў ты да людзей,*
*Замеценых мінулым*
*Імёнаў і людзей"*
(А.Н. -
Уладзіміру Содалю.)

Цёплы вечар патанаў у квецені садоў. Мы сядзелі на кухні ў спадароў Содаляў на восьмым паверсе. Гаспадыня частавала апошнім печаным салодкім гарбузом у сезоне, агуркамі, шарлоткай з апэльсінамі. Быў дзень у календары, блізкі да даты іхнага вяселля.

- Калі нас эвакуявалі, мама малодшую дачушку ў падол загортвала, з чатырма на руках рухалася. Тата быў на фронце, мы былі ў эвакуацыі ў Саратаве да 1954 года. Там раслі гарбузы здаравенныя, мясістыя, мы прывыклі іх парыць і есці. У 1953 годзе мы разшукалі родных і вярнуліся на Беларусь, людзі набылі нам халупачку, так і жылі, пакуль усе сёстры не выйшлі замуж, - тлумачыць яна мяню.

Уладзімір Ілліч Содаль - пісьменнік, літаратуразнаўца, вядомы даследчык спадчыны Ф. Багушэвіча і Д. Марцінкевіча, аўтар кніг "Жупранская старонка","Святы куточак фальварак Свіраны"," Волат з Мігаўкі" і іншых, рупліва рыхтуецца да юбілею Янкі Купалы. Неўзабаве ён сам сустрэне 75-гадовы юбілей. Жыццё пісьменніка было поўным незвычайных і цікавых падарожжаў, плённай працы, шчырых сяброўскіх стасункаў.

Клара Барысаўна - верная спадарожніца і памочніца атуляе яго клопатам. У "папяровым царстве" пісьменніка захоўваюцца дакументы з архіваў вядомых творцаў XIX-XX стагоддзя, іх лісты, рарытэтныя выданні і фотаздымкі, газеты і часопісы розных часоў.

***- Уладзімір Ілліч! Вам хутка будзе семдзесят пяць. Ці ўсё Вы здзейснілі, што хацелі? Ці ёсць у Вашых планах, штосьці, што чакае сваё чаргі. І неадкладнае.***

- Тое, што мною зроблена, заўсёды нашай беларускай грамадзе спатрэбіцца. І гэта найперш усё тое, што мне ўдалося здабыць, расшукаць з Багушэвічавай спадчыны, з яго Кушлянаў. Гэта навечна. Ужо не адзін год мне рупіць распавесці чытачам пра Андрэя Снітку і ягоны фальварак Карлсберг. Мне выпала знацца з яго дачкой Верай, слухаць яе расповеды пра свайго тату, пра іхні фальварак. Гэта будзе яшчэ адна найцікавейшая старонка нашага духоўнага жыцця. Апрача нашых шматлікіх стрэч, я ліставаўся з Верай Андрэеўнай. А напісанае ёй - гэта непаўторныя старонкі нашай гісторыі. Да ўсяго, Веры Андрэеўне выпала стацца жонкай Браніслава Тарашкевіча.

А гэта, зноў жа, наша гісторыя, ды яшчэ якая! - Цяпер рыхтую матэрыялы да Купалавага юбілею, публікацыі ў часопісе "Дзеяслоў".

***- Уладзімір Ілліч, як на Вашу душу кранула людзей паэзія Янкі Купалы?***

-У беларусаў нікога няма, хай жа будзе ім Янка Купала!- пісаў ён сам.

Я ж некалі распытваў расейскіх перакладчыкаў Янкі Купалы: Ісакоўскага, Браўна, чым наш паэт прыйшоўся расейскаму чытачу даспадобы, што іх кранула?

Глыбокае адчуванне Беларусі, такое глыбокае пранікненне ў душэўны стан народа, з якога ён выйшаў. Якуб Колас быў эпік. Такога трапяткога адчування Беларусі, як у Купалы, ні ў кога няма.

***- Якую першую мясціну нашага песняра Вы аглядзелі і даследвалі?***

- Вязынку, потым - Бараўцы. У Вязанцы з'явіўся на свет Ясь Луцэвіч, у Бараўцах - менавіта Купала. Шэсць гадоў арэндавалі бацькі Купалы фальварак ў Бараўцах. Тут ён выбраў сябе літаратурны псеўданім, раіўся з Уладакам Самойлам. Тут вынасілася ягоная "Жалейка", тут стварыў Купала "Адвечную песню".

Калі Купала прачытаў Францішка Багушэвіча, уся яго польская пісаніна пайшла на нішто.

У мяне ёсць фотаздымкі, я быў знаёмы з Паўлінай Мядзёлкай. Я імкнуўся спазнаць мінулае, сустрэцца з людзьмі старэйшага пакалення і новым пакаленням перадаць усё! Ліставаўся з Зоськай Верас і з Канстанцыяй Буйло. Пазнаёміўся з Канстанцыяй, калі быў у Маскве ў клініцы ў доктара Фёдарава. Наша лецішча знаходзіцца недалёка ад Вязынкі. Знаёмы падказаў мне імя ўнука, бабуля якога прымала роды ў Бянігны Луцэвіч. Пра Купалаву павітуху падрыхтаваў некалькі гадоў таму публікацыю "Як на свет радзіўся Янка". Неаднаразова ездзіў у Вязынку на ровары, мы здымалі фільмы для тэлевізіі.

***- Што Вам яшчэ важна занатаваць?***

- Я хацеў бы запісаць тое, што датычылася маіх продкаў. Землякі прапанавалі мне напісаць гісторыю вёскі Мормаль. Аднойчы ў друку я знайшоў такі выраз: "у Мормальскіх лясах, ва Францыі". Магчыма, быў нейкі француз, які затрымаўся пасля паходу 1812 году на Беларусі, і ад яго магла застацца і пайсці далей назва вёскі.

Пакрысе я сабраў свой радавод. Працую над кніжачкай пад назвай: "Адкуль на Беларусі пайшлі Содалі".

Да вайны на вуліцы мяне, маленькага, дзеці цвялілі: "Содаль, Содаль, дай соды!"

З тае пары мяне заінтрыгавала мае прозвішча. "Што гэта ў вас за прозвішча?" - пыталі мяне, калі ў 1955-57 гадах пасля школы я працаваў у Мурманску, на караблерамонтным заводзе і электрыкам на прычале. Там быў "сальта" - партальны кран італьянскай фірмы. "Мы будзем зваць цябе: Сальта!"- казалі хлопцы…

***- Што Вам давялося даведацца невядомага пра сваіх продкаў?***

- У дзеда Паўла былі тры сына і пяць дачок. Ён леснікаваў, за невялічкі капітал, які здабыў сваё працай, ён пабудаваў паравы млын, дзе і гаспадарыў. У 30-тыя гады сям'ю раскулачылі, млын канфіскавалі, тату яшчэ хлопцам саслалі ў Сібір. Але без свайго спецыяліста млын ніхто не мог ізноў запусціць.

Тату Іллю, які быў механікам, вярнулі з высылкі. Ён быў худы, знясілены. Яго накіравалі на ферму і выпісалі яму малачка, каб падмацаваўся. Матулька мая была даяркай, карміла тату малачком. Пасля ён пабудаваўся, стварылася сям'я. Цётачкі і бабулька расказвалі мне пра мінулае. Мама была з 1919 года, яна пажыла больш за 90 гадоў.

"Содалі паходзяць з Прыбалтыкі", - тлумачыла сястра. Яна падзялілася сямейным паданнем: Гомельскі князь Паскевіч аднойчы напаткаў нашага прапрадзеда, упадабаў яго і забраў сябе ў Гомель. Дзед паступіў на службу садоўнікам князя і хадзіў на палявалянне разам з усім гуртом. Не адно дрэва было вырашчана ў парку Паскевічаў з дамогай прадзеда Содаля.

Прадзед меў агромністую фізічную сілу, так, што барукаўся з мядзведзем і перамагаў! Здаралася прыкладна так: паляўнічыя акружалі бярлогу звера загадзя. Вокрыкамі і шумам яны будзілі яго. Не ў час патрывожаны, раз'юшаны звер падымаўся на чалавека.

Чалавек моцна браў мядзведзя за пярэднія лапы і яны некаторы час тузаліся. Гэта пацяшала князя і яго гасцей, у той жа момант некалькі паляўнічых стаялі паводаль з рагацінамі і стрэльбамі напагатове.

Аднойчы дзеду Несцеру не пашанцавала. Гурт выпадкова раскатурхаў і выгнаў з бярлогі цяжарную мядзведзіцу. Раз'ятраная звярына вырвала ў чалавека кавалак шчакі са сківіцай. Так ён і жыў са шрамам да канца жыцця. Князь Паскевіч сам вазіў прадзеда лячыцца ў Францыю, дзе яму нарошчвалі кусок цела, выразаны з ягадзіцы. У новай кніжцы я пра гэта распавяду.

***- Уладзімір Ілліч, Вашыя равеснікі - дзеці і сведкі вайны. Яе раны і перажыванні жывуць глыбока ў душах і у целах…***

- Мы - дзеці вайны, апаленыя і загартаваныя. Мы - апошнія сведкі, якія памятаюць вайну. Калі я кажу па тэлефоне: "Гаворыць 1937 год!"- у маім голасе людзі чуюць трывожную інтанацыю, за тыя часы, што былі ў 30-я гады на Беларусі.

Хрысцілі мяне родныя патаемна ў 1937 годзе, у прыцемках. Нават свечку не запальвалі. Святар сказаў маме: "Ваш хлопчык будзе звацца Ладымерам!" "Хоць бы хоць Валодзька быў", - троху запярэчыла матулька. "Дык гэта ж ён і ёсць!"

Уладзімір Ілліч! - Імя мяне трымала па жыцці. Мне не дазвалялі вольнасцяў, што былі даравальныя іншым дзецям.

Я часам распытваў матульку пра некаторыя свае ўспаміны: "Мама, ці такое было?" "Так, так, было! Валодзечка, а ты памятаеш, як цябе немцы забіралі?"- "Не, мама, няўжо гэта было?".

Потым я прачытаў у перыёдыцы: у тых мясцінах пад назвай Чырвоны бераг знаходзіўся нямецкі шпіталь. Немцы бралі дзяцей на кроў. Петрык-староста абараніў мяне, не даў немцам забраць. Вас іст дас? Тата загінуў у першыя дні вайны, ён крыху не дачуваў, і яму назвычай цяжка было ў баі.

З Мормаля немцы перагналі бежанцаў у свой тыл. Мы з матуляй жылі некаторы час пад Бабруйскам. У 1944 годзе спяшаліся - хутчэй бы толькі вярнуцца дадому!

"Асцярожна! Міны" - віднеліся надпісы паўсюль. Усё наваколле зарасло травой, быльнягом. Міны. Выбухі. Людзі беглі на поле паглядзець на выбух, хоць бы не мае патрапілі!

Танкавыя бai ішлі каля Мормаля. Столькі было падарвана тэхнікі! Потым, у 1944-тым, у кожнага хлопчыка быў свой танк, на гарматы мы залазілі і каталіся. Стаялі згарэлыя танкі, костачкі з іх асцярожна вымалі і закопвалі.

Дзеці ўздагон за дарослымі рабілі штыкі з дубчыкаў: "Мы - красныя мінёры, усё размінуем!".

Так, аднойчы мы з сябрам знайшлі патроны. Калупаў суседскі хлопчык, выпадкова яму абарвала пальцы. Старшыня калгаса тут жа здабыў машыну для сына - і хуценька адправіў нас у Жлобін. Мне патрапіў асколак у вочка. Трашчала галава, мучыў моцны боль.

Праз гады доктар Фёдараў у Маскве падрабязна распытаў мяне пра здарэнне.

"На жаль, мы Вам не можам дапамагчы, Вам прыдзецца развітацца з вочкам." Пасля зрабілі пратэзік. Другое вочка перанапружваецца занадта. Пісаць магу, а чытаць складана. Унук трошкі дапамагае набіраць на кампутары. Так я застаўся інвалідам па зроку. Пасляваенныя падзея я занатаваў у дакументальнай аповесці "Вайна пасля вайны".

Пасля школы ў 1956 - 1957 гадах я працаваў у Мурманску на караблерамонтным заводзе.

Адтуль прыслаў свае дакументы ў інстытут у Менск. Заяву на паступленне напісаў па-беларуску. Яшчэ раней накіраваў ліст Нілу Гілевічу, ён тады быў малады аспірант. Той ліст ён захаваў на доўгія гады. Сотня пытанняў у ім была: "Чаму на Беларусі ўсё так, так і так."

- Уладзя, у цябе нешта ёсць! -казаў потым Ніл Гілевіч.

Прышлі дакументы ў інстытут. Старшынём камісіі быў загадчык кафедры, вядомы філолаг і аўтар падручнікаў Фёдар Янкоўскі. Ён разгарнуў маю заяву, прачытаў і сказаў:

- Во гэтага хлопца трэба ўзяць і вывучыць! Калі будуць памылкі - паправіць! - Пра тое потым распавёў мне сакратар камісіі.

***- Уладімір Ілліч, прыгадайце, калі ласка, як Вам давялося сустрэць сваю верную сяброўку Клару Барысаўну?***

- Аднойчы татава сястра сказала паўжартам: "Валодзечка! Чаму ў цябе няма памочніцы? Ты б ажаніўся, яна будзе працаваць, а ты - вучыцца."

- Я была на 3-ім курсе, - дадае Клара Барысаўна.- Вучылася на тэхнолага і працавала ў аддзеле эканомікі абутку, жыла на кватэры ў гаспадыні. Мы с сяброўкай гулялі ў парку імя Горкага, і да нас падышлі двое хлапцоў. Так мы пазнаёміліся. Валодзя жыў у студэнцкім інтэрнаце. Нас было ў мамы чатыры сястры.

Бацька Барыс Караткевіч працаваў у райкаме і быў занадта адданы партыйнай справе.

Ён чакаў сына, а нараджаліся дачушкі. Іх назвалі: Роза, Клара, і Святлана. Сына хацелі Валодзем назваць. Перад вайной нараджаецца чацвёртая дачушка. Гэта будзе ў нас Сталіна!- кажа тата. (Потым яна змяніла імя на Галіна). Прозвішча мамы было - Драздовіч. Каб тата быў жывы, я б яму пры жыцці прывяла Уладзіміра Ілліча!

*(Заканчэнне на 4-й старонцы.)*









## "Сустрэчца з людзьмі старэйшага пакалення і новым пакаленням перадаць усё!"

*(Заканчэнне. Пачатак на старонцы 3.)*

Доўгі час мы сустракаліся, потым узялі шлюб. Гаспадыня, цёця Лёня, зладзіла вячэру маладым. Першую ноч усе разам з гасцямі спалі на падлозе. Сёння мы гулялі вяселле, а назаўтра выпаў снег, было ўсё белае. Гэта адбылося 1 траўня 1961 года.

Потым мы пераехалі ў Астрашыцкі гарадок. Уладзімір Ілліч пайшоў працаваць у дзіцячы туберкулёзны санаторый у Астрашыцкім гарадку. Чулы настаўнік у белым халаце выкладаў дзецям беларускую мову. З часам мы пераехалі ў кватэру на вул. Шчадрына ў Менску. У 1977 годзе пабудавалі новы 16-павярховы будынак каля праспекта Скарыны - Незалежнасці, дзе мы жывём зараз. Старэйшы наш сын Марат нарадзіўся ў Астрашыцкім гарадку, дачушка Аксана - у Менску. Выраслі ўнукі - Кастусь, Алесь, Сержык і Максім.

***- Уладзімір Ілліч, вялікае месца ў Вашым жыцці і даследаваннях займае Францішак Багушэвіч. Вы з ім звязаны жыццём і лёсам.***

- Больш за трыццаць гадоў я працаваў на тэлевізіі. Вёў передачу "Роднае слова", узначальваў студыю "Ліцэй", мы рыхтавалі навучальныя перадачы для школы. У праграме пачэснае месца займаў Францішак Багушэвіч. Фільм, які мы зрабілі, паслужыў імпульсам усёй далейшай даследчыцкай дзейнасці. Потым Уладзімір Скалабан заахвочваў мяне напісаць гісторыю тэлевізійнай праграмы "Роднае слова".

За некалькі апошніх дзесяцігоддзяў я намножыў багаты матэрыял пра Францішка Багушэвіча і яго асяроддзе. Ёсць тэчкі з копіямі аўтографаў пра мясціны, дзе праходзілі жыццёвыя і творчыя пуцявіны Багушэвіча - Вільня, Трокі, Варшава, Дрэздэн, Люксембург, Львоў.

У мінулыя гады я сустракаўся і ліставаўся з унукам Францішка Багушэвіча - Янкам Тарчэўскім. У 2011 годзе споўнілася 120 год з моманту выдання "Дудкі беларускай" у 1891 г. Захоўваю факсімільнае выданне лацінкай і кірыліцай, і заўсёды бяру яго на імпрэзы, на Дзень беларускага пісьменства.

"Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам афяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя "мужыцкай" завуць, а завецца яна "беларускай", - гаворыцца ў прадмове.

Кніжачка выйшла ў Кракаве тыражом 3 тыс. і імгненна разышлася, пры жыцці Багушэвіча яе перавыдалі. У мяне захоўваецца рарытэтны асобнік рэцэнзіі.

Усе людзі сталі з таго часу сталі пільна задумвацца пра нашу мову, наша паходжанне. Затурканая інтэлігенцыя ўскалыхнулася.

"Мы ўсе выйшлі з Багушэвіча," - пісаў пазней прафесар Адам Мальдзіс.

Масквафілы ў Львове ў 1891 годзе выдалі брашуру-рэцэнзію пад назвай: "Новы самастойны рускі народ". Галоўная думка іх была такая: "Не ўдасца кракаўскаму палітыкану сваёй "Дудкай беларускай" разваліць магутнасць Расійскай імперыі".

Не хацелі яны самавызначэння нашага народа. Жадалі, каб усё пад адзін грэбень было.

"Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога дадзеная, як і другім добрым людзям, і гаворым жа мы ёю шмат і добрага."

Пры сустрэчах я перыядычна размаўляю са святарамі на гэту тэму і стараюся іх пераканаць ужываць родную мову ў служэнні і казаннях.

Чакаю лістоў ад Алеся Жамойціна, паэта і загадчыка дома-музея ў Кушлянах. Медсястра, чулая да беларускай мовы, таксама піша мне з Кушлянаў.

***- Якія ёсць у Вас радасці апошняга часу?***

- Мы прычакалі першага праўнука. Мае ўнукі назвалі яго Дамінікам. У свой час, у свае маладыя гады я браў Дамінікавага тату, усюды, асабліва, калі вандравалі па Купалавых мясцінах. Мо гэтыя вандроўкі нейкім чынам адгукнуліся ў Кастусёвай душы. І от нарадзіўся ў яго сынок. І назваў ён яго Дамінік. Дамінік Содаль. Пагадзіцеся: гучыць арыстакратычна, каларытна, і самабытна. Мы яго васьмімесячнага сфатаграфавалі з фотаздымкам Дамініка Луцэвіча, таты Янкі Купалы. Балазе, я колісь працаваў на тэлевізіі і прыхаваў згаданы фотаздымак, як бы прадчуваў, што Бог пашле нам Дамініка.

Дамінікава матуля Алена душою прыняла згаданае імя. Уся наша сям'я з гонарам прыняла імя новага сем'яніна, як прадаўжальніка роду Содаляў. Мой унук Сяржук Чылікін- Садэльскі, аўтар трох кніжачак, адгукнуўся вершам. І я напісаў у сваім радаводзе ўжо некалькі слоў пра праўнучка. Дамінік Содаль - гучыць шляхетна.

Мне Бог вельмі спрыяе. Пасылае паўсядзённыя сустрэчы, патрэбных людзей.

***- Шаноўны Уладзімір Ілліч, жадаем Вам моцнага здароўя, трываласці і натхнення на доўгія гады, каб Вы маглі перадаць прагу да даследванняў у новым рупліўцам беларускага слова!***

***Гутарыла Э. Дзвінская.***

**Фота Кастуся Гарэцкага:** 1. Уладзімір Ілліч і Клара Барысаўна Содалі; 2. Даследчык з рарытэтным выданнем "Дудкі беларускай".

## Прайшлі сёмыя гарадзенскія чытанні



Сёмыя гарадзенскія чытанні прайшлі ў абласной бібліятэцы імя акадэміка Карскага. Гэтая навуковая канферэнцыя прысвечана круглай даце - 150-годдзю выхаду першай беларускай газеты "Мужыцкая праўда". Значнасць "Мужыцкай праўды" як папулярнага выдання аказалася вельмі актуальнай напярэдадні паўстання 1863 года, мяркуе прафесар Купалаўскага ўніверсітэта Святлана Куль-Сяльвестрава.



- Упершыню ад паўстання Касцюшкі вызвольны рух звярнуўся да сялян. Вось гэта было страшна. "Мужыцкая праўда" ў дадзеным выпадку адыграла ролю не толькі першай беларускай газеты, але была ластаўкай, паказала, што наш народ можа быць адзіным, непадзеленым на шляхту і сялянства, што ў далейшым фактычна можа з'явіцца адзіны вызвольны рух усіх сацыяльных слаёў на гэтай тэрыторыі. Таму гэта трэба так расцэньваць.

Больш за дзясятак тэмаў было ўзнята падчас навуковай канферэнцыі, непасрэдна звязаных з першай беларускай газетай. Супрацоўнікі абласной бібліятэкі, дзе праходзілі чытанні, арганізавалі адмысловую выставу гісторыі перыядычнага друку Гарадзеншчыны і літаратуры, якая прысвечана Кастусю Каліноўскаму і яго эпосе.

*Якуб Сушчынскі,*
*Радыё Рацыя,*
*Гародня.*
Фота аўтара.

## У Лідзе сёлета тры беларускамоўныя першыя класы

Упраўленне адукацыі Лідскага райвыканкаму працягвае працу па пашырэнні ўжытку беларускай мовы ў сістэме адукацыі раёна. Адзін з кірункаў гэтай працы - штогадовае адкрыццё першых беларускамоўных класаў у гарадскіх школах.

Летась былі адкрытыя два класы - у 12-й і 15-й школах. Класы былі маламерныя - 2 і 3 чалавекі. Сёлета справа выглядае значна лепш - адкрыты тры класы: у 12-й школе - 5 чалавек, у 16-й школе - 8 чалавек, у 17-й школе - 11 чалавек.

Аднак задача-мінімум, якая стаіць перад лідскай адукацыяй - мець штогод не менш, чым па аднаму беларускамоўнаму першаму класу ва ўсіх школах Ліды і Бярозаўкі.

Задачу-максімум усе мы ведаем - гэта вяртанне да паўнавартаснай беларускамоўнай адукацыі ва ўсёй краіне.

***Наш кар.***

---

**14 верасня ў пятніцу**
**ў сядзібе ТБМ па вул. Румянцава, 13.**
**з 15.00 да 17.00**
**адбудзецца паседжанне**
***Рады інтэлігенцыі.***
***Адказны У. Колас.***

---

**14 верасня ў пятніцу**
**ў сядзібе ТБМ па вул. Румянцава, 13.**
**з 17.00 да 19.00**
**адбудзецца паседжанне**
***Рады Белсату.***
***Адказны У. Колас.***

---

**19 верасня ў сераду**
**ў сядзібе ТБМ па вул. Румянцава, 13.**
**з 18.45 да 20.00**
**адбудзецца паседжанне**
**Клуба красамоўства "ПраМова".**
***Адказвае А. Давідовіч.***

---

# ПРАЗ УСЮ БЕЛАРУСЬ



Напрыканцы жніўня Магілёўская арганізацыя Таварыства беларускай мовы (кіраўнік - А. Дзьячкоў) зладзіла чарговую аўтобусную вандроўку па Беларусі. Акрамя агляду старажытных храмаў, палацаў, помнікаў выбітным асобам у праграме вандроўкі было наведванне мясцін, звязаных з імёнамі народных паэтаў Янкі Купалы і Максіма Танка, для якіх гэты год юбілейны. Але музей Купалы ў Акопах быў зачынены, супрацоўнікі вырашылі адпачыць у жніўні. Таму паехалі адразу ў Пількаўшчыну, вёску ў Мядзельскім раёне, дзе сто год таму (17 верасня) нарадзіўся Яўген Скурко, якога мы ведаем пад псеўданімам Максім Танк.

За 83 досыць бурлівыя гады свайго жыцця гэты чалавек зазнаў і турмы, і вялікую славу. Яго творы забараняліся польскай дэфензівай, кнігі канфіскоўваліся паліцыяй. Урэшце ён стаў народным паэтам Беларусі, Героем Сацыялістычнай Працы і займаў высокія пасады ў БССР.

Дом, дзе нарадзіўся Яўген, не з'яўляецца музейным будынкам, але шыльда вісіць. Даглядае дом 87-гадовая Мар'я Іванаўна Скурко, братавая Яўгена Іванавіча. Брат Хведар пасля апошняй вайны збудаваў дом зусім побач з домам Танка, мо якіх метраў дзесяць паміж дамамі, і гаспадарыў там, даглядаючы і дом брата, куды разпораз наведваўся сам Танк з сябрамі.

У доме Танка нічога асаблівага няма. Ложак, стол, палічка з кнігамі, некаторыя бытавыя рэчы, фота на сценах, абраз. Кінуліся ў вочы вышыванкі, развешаныя ў рамках на сценах. Выявілася, яны створаны Марыяй Іванаўнай. І ходнікі на падлозе ёю сатканы. Майстрыха!

Зараз жанчына жыве зусім адна, бо вёскі ўжо фактычна няма. Калі-нікалі зазглядвае старшыня сельсавета, і раз ці два на тыдзень аўталаўкай падвозяць сякія-такія прадукты. Гаспадаркі ніякай не вядзе, ужо не хапае сіл, але на ўчастку што-нішто вырошчвае. Мы засталі яе за ўпарадкаваннем выбранай цыбулі. Вочы яшчэ дазваляюць глядзець тэлевізар. Жартуе: "Раней мы жылі ўчатырох - я, Хведар і два тэлевізары. Зараз Хведара няма, адзін тэлевізар сапсаваўся, так што жывем удвох."

Развіталіся з пачуццём павагі і шкадобы да гэтай сціплай жанчыны, якая, амаль не ведаючы творчасці свайго выбітнага швагра, аддана служыла яму, даглядаючы яго родны дом, гасцінна прымаючы яго і яго гасцей.

Начавалі ў палатках на возеры Нарач. Назаўтра наведалі сядзібу Плятараў у Опсе (хто ж не чуў пра графіню-рэвалюцыянерку Эмілію Плятар, якой Адам Міцкевіч прысвяціў верш "Смерць палкоўніка", узвысіўшы яе званне, - Эмілія загінула капітанам). І паехалі ў Дрысвяты.

У Дрысвятах здзівіў ксёндз Часлаў. Мы прыехалі а палове на першую, меркавалі за паўгадзіны агледзець унікальны драўляны касцёл, збудаваны па праекце мсціслаўца Л. Вітан-Дубейкаўскага, бо а першай гадзіне павінна было пачацца набажэнства. Але ксёндз затрымаў нас, прапанаваў вызначыцца тым, хто ўмее чытаць. Пытанне здзівіла, бо чытаць жа ўмелі ўсе. "Па-польску?" - удакладніў я. - "Не, па бялорусу." Вызваліся чацвёра зацікаўленых, у іх ліку я. Ксёндз раздаў нам брашуркі з тэкстамі, паказаў, каму і колькі чытаць, павітаў прыезджых - праваслаўных, каталікоў, старавераў, іўдзеяў і ... "Якія канфесіі яшчэ ў вас маюцца?" - запытаў у Дзьячкова. Той паціснуў плячыма: "Хіба што атэісты." - "Вітаю і атэістаў," - дадаў ксёндз і пачаў набажэнства. Праз некаторы час прапанаваў нам працягваць чытанне з амбону адзначаных раней тэкстаў, у пэўных месцах людзі хорам паўтаралі патрэбнае. Потым папрасіў Дзьячкова распавесці прысутным пра архітэктара будынка, пра якога і ён сам мала ведаў, асабліва зацікавіўся, дзе чалавек пахаваны, і быў вельмі ўзрушаны, што пахаваны ў Вільні.

У Відзах ля літоўскай мяжы агледзелі самы высокі ў Беларусі касцёл пачатку ХХ стагоддзя. Праект касцёла ў Відзах таксама рабіў наш зямляк Л. Вітан-Дубейкаўскі, але перавагу аддалі праекту В. Міхневіча. Пакуль рыхтаваўся абед, я пахадзіў па плошчы ля касцёла. Некалі на гэтай плошчы праводзіліся вялікія кірмашы, якія асабліва славіліся продажам коней і гусей. Уражлівая лічба: за год у Відзах прадавалася каля ста тысяч гусей. Уявіце сабе такое гусінае царства.

На лавачцы сядзелі дзве жанчыны - маладзейшая, блізу сарака гадоў, і старэйшая, ужо пенсійнага ўзросту. "Наведаеце касцёл?" - "А як жа!" - "Ён у вас прыгожы." - "Так. Толькі ж раней тут склад быў. Зараз аднаўляецца. Каб раней у нас быў той ксёндз, які зараз, то нашмат болей зрабілі б." - "Як завуць вашага ўлюбёнца?" - "Ксёндз Альберт." - "На якой мове вядзе набажэнствы?" - "Спачатку вёў толькі па-беларуску. А потым спытаў: можа, тут ёсць палякі, калі яны захочуць набажэнствы па-польску, то няхай напішуць заяву. Ну і мы падпісалі." - "Чаму?" - "Ну мы ж каталікі, мы ж палякі." - "Пачакайце, каталікі ёсць і ў Іспаніі, але ж яны не палякі." - "Ну а мы палякі." (Маладзейшая размаўляла са мной па-руску, а старэйшая амаль на чыстай беларускай мове.) - "А польскую мову вы ведаеце?" - "Ну як… Трошкі ведаем." - "Але ж беларускую вы ведаеце лепш! Навошта вам набажэнствы па-польску?" - "Ну… хай будзе і па-польску."

Зараз ксёндз Альберт (з націскам на першым складзе) вядзе імшу адзін раз па-беларуску, другі раз па-польску.

Дадому прыехалі апоўначы. Але ўражанняў ад гэтых двух дзён хопіць надоўга.

Тым, хто цікавіцца такімі падарожжамі, варта сачыць за абвесткамі на сайце mahilou.org.

*Міхась Булавацкі.*



**На здымках:** дом М. Танка; з Марыяй Іванаўнай Скурко ў доме М. Танка.

# Аб пытаннях рэстаўрацыі



Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 213-43-52, 284-85-11, разліковы рахунак № 3015741233011 у аддз. №539 ААТ Белінвестбанк", г. Мінска, код 739

31 ліпеня 2012 г. № 45

Сп. У.У. Макею,
КіраўнікуАдміністрацыі
Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
220016, г. Мінск
вул. К. Маркса, 38

У сувязі з наведваннем кіраўніком беларускай дзяржавы А.Р. Лукашэнкам 20 ліпеня палацава-паркавага ансамбля XVI-XIX стагоддзяў у Нясвіжы, дзе ён закрануў праблему з рэстаўрацыйнымі кадрамі, прапаную наступнае:

1. Адрадзіць дзейнасць дзяржаўнага навукова-даследчага рэстаўрацыйнага інстытута пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь, які існаваў і паспяхова дзейнічаў у 80-90-я гады мінулага стагоддзя.

2. Даручыць Міністэрству культуры выступіць ініцыятарам стварэння недзяржаўнай грамадскай арганізацыі "Згуртаванне беларускіх рэстаўратараў", якая можа аб'яднаць на грамадскіх пачатках усіх вядомых рэстаўратараў нашай краіны. Такія арганізацыі даўно існуюць і паспяхова дзейнічаюць у суседніх краінах, прыкладам у Літве і Расіі. Гэта арганізацыя можа ажыццяўляць грамадскі кантроль за рэстаўрацыйнымі работамі на найбольш значных аб'ектах.

3. Выдаць зборнік, прысвечаны гісторыі беларускай рэстаўрацыі ў XIX-XX стагоддзях.

З павагай
старшыня ТБМ А. Трусаў.



Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
Галоўнае ўпраўленне па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб
220016, г.Мінск, рэзідэнцыя Прэзідэнта, тэл. 222-32-17, факс 226-06-10
E-mail: contact@president.gov.by

Администрация Президента Республики Беларусь
Главное управление по работе с обращениями граждан и юридических лиц
220016, г.Минск, резиденция Президента, тел. 222-32-17, факс 226-06-10
E-mail: contact@president.gov.by

29 жніўня 2012 г. № 10/535-169

Старшыні грамадскага аб'яднання
'Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.
вул. Румянцава, д. 13,
г. Мінск

Паважаны Алег Анатольевіч!

Вашы прапановы, якія закранаюць некаторыя пытанні рэстаўрацыйнай справы ў Беларусі, уважліва вывучаны зацікаўленымі дзяржаўнымі органамі. Інфармуем аб выніках.

1. Аб адраджэнні дзейнасці дзяржаўнага навукова-даследчага рэстаўрацыйнага інстытута пры Міністэрстве культуры.

У нашай краіне захаваны і працуюць некалькі арганізацый рэстаўрацыйнага напрамку, якія займаюцца разнастайнымі даследаваннямі (у тым ліку гісторыка-архіўнымі, фізіка-хімічнымі, археалагічнымі, інжынернымі і іншымі), распрацоўваюць праектную дакументацыю, выконваюць рэстаўрацыйна-аднаўленчыя работы.

У мэтах паляпшэння якасці работы і захавання высокакваліфікаваных спецыялістаў Міністэрствам культуры ў цяперашні час вывучаецца пытанне аб магчымасці стварэння адзінай арганізацыі, якая будзе займацца рэстаўрацыяй гісторыка-культурных каштоўнасцей.

2. Аб стварэнні грамадскай арганізацыі "Згуртаванне беларускіх рэстаўратараў".

У Беларусі дзейнічаюць некалькі грамадскіх аб'яднанняў, у склад якіх уваходзяць спецыялісты ў галіне рэстаўрацыі. На думку Міністэрства культуры, прапаноўваць стварэнне яшчэ адной грамадскай арганізацыі такога накірунку нямэтазгодна.

3. Аб выданні зборніка, прысвечанага гісторыі беларускай рэстаўрацыі XIX - XX стагоддзях.

Буклеты і іншая друкаваная прадукцыя, у якой адлюстроўваюцца ў тым ліку і пытанні рэстаўрацыі, выдаюцца Міністэрствам культуры штогод. Выданне асобнага зборніка, прысвечанага гэтай тэматыцы, за кошт бюджэтных сродкаў нямэтазгодна ў сувязі з вузкасцю яго мэтавага і чытацкага прызначэння.

Вялікі Вам дзякуй за прапановы.

Начальнік галоўнага ўпраўлення па рабоце
са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб С.І. Буко.

---

Брэст, 60\1 100 28\8 1205=
Ліда-2, Гродзенскай, П\С 7
ГАЗЕТА НАША СЛОВА РЭДАКТАРУ=

Уключыла Свабоду, і боль пранізаў маё сэрца, пайшоў з жыцця Алесь Петрашкевіч, Светлы Чалавек, інтэлігент, Патрыёт, слынны сын Айчыны.

Гартаю яго гістарычную кніжку "Здрапежанная зямля" пра драматычную мінуўшчыну радзімы на працягу стагоддзяў з подпісам мне на добрую памяць. У прамове аўтар піша: той хто плюне на памятныя знакі мінулага, здольны плюнуць на чалавека, на маці, на Айчыну, толькі ў імя светлага абавязку перад роднай зямлёй жыве у пісьмянах памяць людская. Апошняя драма ў кніжцы называецца "Дагарэла свечачка " - маналог беларускі, прысвечаны матулі. "Дагарэла свечачка" і яе сына, светлая памяць.

Марыя Лукашук з Берасця.



№ 37 (1084) 12 ВЕРАСНЯ 2012 г. Наша слова

# Людвік Нарбут

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Чуць больш, чым праз месяц пасля гэтага прадстаўлення, Людвік Нарбут быў



*М.Э. Андрыёлі. Лагер паўстанцаў Л. Нарбута.*



*М.Э. Андрыёлі. Атрад Л. Нарбута на маршы.*

смяртэльна паранены ў другой бітве пад Дубічамі 5 траўня 1863 года.

Становішча што раз станавілася ўсё больш небяспечным. Паўстанцы адступалі ў глыб пушчы. Другога траўня Нарбут размясціўся з лагерам на пагорку пасярод балот недалёка ад Дубіч на поўдзень ад возера Пеляса. Доступ да лагера быў немагчымы для тых, хто не знаў таемных перамычак і вузкіх сцежак паміж багнамі. Але якраз там пятага траўня адбыўся апошні бой. Лагер паўстанцаў выдаў ворагам гаёвы дзяржаўных лясоў здраднік Адам Базылевіч Карповіч, давераны чалавек Нарбута. Супрацоўнічаў ён з капітанам Цімафеевым. Была гэта другая здрада, якую спазнаў у сваім жыцці Людвік Нарбут - пра першую, у школьныя часы, згадвалася раней. Акружаны адусюль пераважнымі сіламі ворага (якімі кіраваў капітан Цімафееў), паранены ў нагу ў пачатку бітвы, Нарбут праз увесь час кіраваў боем, і як даносяць пазнейшыя рапарты "паранены куляй у грудзі, сканаў з апошнім намаганнем гаворачы да таварышаў, што прыемна памерці за Айчыну". Разам з начальнікам загінулі яго таварышы па змаганні: **Аляксандр і Францішак Беразоўскія (Бразоўскія), сыны Францішка** з Гарнофеля, **Стэфан Губарэвіч, сын Стэфана** з Галавічполя, **Станіслаў Ян Ёдка** з Петрашунцаў, **Лявон Краінскі сын Антонія** з Грышанішак, **Юзаф Пакемпіновіч** з маёнтка Подзітва, **Уладзімір Паплаўскі** з Крэвіна, **Вандалін Жукоўскі** з Лацка, **Казімір Грэмза, сын Стэфана** з Ліпкунцаў, **Ігнацы Тарашкевіч** - фельчар з Ліды, **Адам Н., Томаш Скірмунт**- жыхар Піншчыны. У няволю трапілі **Пётр Янкоўскі** – сасланы ў Іркуцк, дзе памёр, **Уладзіслаў Клімантовіч** – сасланы ў Сібір, **Уладзіслаў Нікалаі** (паручнік расейскага войска) – расстраляны ў Вільні 25.09.1863 г. на вядомым пляцы Лукішкі, доктар **Цыпрыян Пясецкі** з Пескаў – высланы на катаргу ў Табольск, **Уладзіслаў Пілецкі**, былы студэнт Пецярбурскага універсітэта, прыгавораны да 6 гадоў катаргі, **Фелікс Ройша** з Ліды, **Цыпрыян Коркуць** з Ліпкунцаў, **Адольф Краінскі** з Палашак (высланы ў Варонежскую губерню, дзе памёр), **Ян Глушыцкі**.



*М.Э. Андрыёлі. Да бою.*

Пахаванне Людвіка Нарбута і палеглых паўстанцаў адбылося на цвінтары пры касцёле ў Дубічах праз месяц пасля бітвы. Час чакання афіцыйнага пахавання мусіў быць такім доўгім з-за неабходнасці атрымання абавязковай згоды з боку царскіх уладаў. Па такі дазвол звярнуўся да віленскага генерал губернатара В. Назімава сам капітан Цімафееў. У пахаванні Нарбута і яго падначаленых узялі ўдзел натоўпы навакольных жыхароў Аднак магіла паўстанцаў не прастаяла доўга. Праз колькі месяцаў пасля пахавання па загаду М. Мураўёва-вешальніка, душыцеля паўстання на Літве, касцёл і магілу зраўнялі з зямлёй. Зроблена гэта было ў рамках рэпрэсій. Царская ўлады баяліся, каб магіла Людвіка Нарбута не стала месцам патрыятычных выступленняў і напамінаннем, што на гэтай тэрыторыі геройскі змагаўся аддзел паўстанцаў.

Пасля смерці Нарбута паўстанне ў Лідскім павеце, здавалася, ужо толькі дагарала. Рэшткі атрада ўдалося сабраць **Баляславу Нарбуту**, які не ўдзельнічаў у бітве пад Дубічамі. **Баляслаў** стараўся захаваць аддзел для далейшай барацьбы. Загадаў паўстанцам трымацца ў лесе ў ваколіцах вёскі Паддуб'е, куды меўся прыбыць новы начальнік.

Цэнтральныя паўстанцкія ўлады ў гэтай сітуацыі прызначылі начальнікам на Лідскі павет тагачаснага начальніка Ашмянскага павету **Астрогу** або **Аляксандра Парадоўскага**. Задачу ён меў цяжкую. Належала сабраць раскіданых паўстанцаў і падняць сярод іх ранейшы запал і энтузіязм. Першым важным заданнем Астрогі было пакаранне здрадніка Карповіча. У дзень зялёных свят (сёмуха) Карповіч быў павешаны ў вёсцы Манталы каля Дубіч. Падобны лёс спаткаў іншага здрадніка селяніна Яна Шумялевіча 15 чэрвеня 1863 года ў маёнтку Сумарокаўшчына.

Намаганні Астрогі ў справе ажыўлення паўстання не давалі вынікаў. Дзейнасць цывільных ўлад паўстанцаў пачала прабуксоўваць. Жывёла, зброя часта не даходзілі да рук паўстанцаў, або даходзілі з вялікім спазненнем, у недастатковай колькасці. Смерць Нарбута і ўсё больш суровыя рэпрэсіі, якія праводзіліся новым губернатарам Міхаілам Мураўёвым (прыбыў ў Вільню 14 траўня) былі таму прычынай. У той самы час на мяжы Лідскага павету ў Рудніцкай пушчы мелі месца дзве буйныя сутычкі паўстанцаў Троцкага павету з царскімі войскамі. Першая з іх 31 траўня каля Зыгмунцішак з аддзелам генерала Вельямінава, а другая 17 чэрвеня з казакамі палкоўніка Алхазава.

Астрога правёў некалькі баёў у чэрвені, з якіх найбуйнейшым і найлепш прадуманым быў бой пад Карцуцянамі на поўдзень ад Эйшышак 23 чэрвеня з аддзелам палкоўніка Ўласава. Пасля той бітвы ў Эйшышках быў размешчаны вялікі аддзел расейскіх войскаў палкоўніка Крамера.



*М.Э. Андрыёлі. Смерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў.*

Праз пару тыдняў Астрога мусіў пакінуць межы Лідскага павету і перамясціцца на Гарадзеншчыну, дзе пад напорам царскіх войскаў 9 жніўня перайшоў Нёман і аказаўся ў Аўгустоўскай губерні.

У верасні 1863 года. быў схоплены і прыгавораны да смерці Баляслаў Нарбут. Аднак з увагі на малады ўзрост смяротная кара была заменена на высылку ў Краснаярск.

У гэтым месцы належыць прыпыніцца над пытаннем - чаму сярод мясцовых жыхароў постаць Людвіка Нарбута карысталася ў перыяд акупацый і міжваеннай Польшчы такой вялікай пашанай і цікавасцю. Неаспрэчны адказ простыя. Побач з ксендзам Адамам Фалькоўскім Людвік Нарбут - адна з найвыбітнейшых постацяў Лідчыны. Так жа як і ксёндз Фалькоўскі атрымаў ён прызнанне, дзякуючы сваёй жыццёвай пазіцыі. Абодва былі гарачымі патры-ётамі, гатовымі прысвяціць сваё жыццё для дабра Айчыны. Постаць Нарбута, яго змаганне і геройская смерць сталі сімвалам, а разам і ўзорам для наступных пакаленняў.

Яшчэ пры жыцці Людвіка Нарбута яго суправаджала легенда. У пачатковы перыяд падтымлівала яе найпраўдападобней сям'я. распавядалі, што на пачатку вайсковай службы малады Нарбут даў аплявуху расійскаму афіцэру за тое. што той назваў яго польскім бунтаром. За гэты ўчынак Нарбуту пагражаў вайсковы суд. Аднак няма пацвярджання гэтаму здарэнню ў захаваных дакументах.

*(Працяг у наст. нум.)*

# Выстава майстрых - роднаму гораду

8 верасня жыхары Менска і госці сталіцы святкавалі 945-тую гадавіну першага ўзгадвання горада ў летапісе. Тэатралізаваная дзея з выступленнем мастацкіх і музычных калектываў пад назвай "Губернскі горад XIX стагоддзя" адбылася ў раёне вуліц Рэвалюцыйнай і Камсамольскай.



На вуліцы былі разгорнуты выставы дэкаратыўных вырабаў з дрэва, скуры, тканіны, па дарозе шпацыравалі ў святочных строях прадстаўнікі розных стагоддзяў і саслоўяў, героі казак, дзейнічала батлейка. Па суседству былы губернскі галава Х1Х стагоддзя запрашаў удзельнікаў свята наведаць новую галерэю імя М. Савіцкага.

Народныя мастрыхі і ўмеліцы да Дню гораду падрыхтавалі вялізную вышытую выставу пад назвай "Нацыянальны покрыў свету".

Калектыўная праца 150-ці жанчын, састаўленая з некалькіх прамавугольнікаў, аб'ядноўвае палотны памерам 40х40 сантыметраў, вышытыя ў стылі шматковай мазаікі. Кожная з руплівіц уклала ў іх частачку неба і сонца, улюбёных маляўнічых краявідаў, буслоў і ластавак у палёце, яркіх кветак і раслінак, выробленых са стужак і нітак.

Кіраўніком праекта з'яўляецца Вольга Міхайлаўна Матусевіч. Ініцыятыўная група разам з Валянцінай Іванаўнай Жыткевіч кампанавала працы, блізкія па тэмах і колеры, так што атрымалася еднасць у агульнай беларускай скіраванасці.

У 2007 годдзе мы рабілі "Полацкае покрыва",- распавяла адна з аўтарак вышытага палатна, Святлана Мікалаеўна Платунова.- Потым падрыхтавалі "Гродзенскае покрыва" для Фестываля нацыянальных культур ў Гродне. І вось вырашылі зрабіць "Менскае покрыва" да Дня горада. Яно сімвалізуе абярэг, жаночую ахову і абарону, нясе зычэнні міру і дабрабыту кожнай сям'і.

Сярод аўтараў вышывак - кіраўніцы мастацкіх студыяў, сябры Саюза майстроў народнай творчасці.

- Мая частачка прысвечана Траецкаму прадмесцю, ёсць і іншыя матывы,- кажа Святлана Мікалаеўна.- Калі я пачала рыхтаваць вышытыя



дэталі і збіраць іх у адзіную кампазіцыю, мая дачушка пачала пісаць вершы на іх. Так разам з выявымі на палатне з'явіліся вытканыя вершы, прысвечаные Траецкаму прадмесцю.

Захапленне жанчын тэхнікай шматковай мазайкі, якая ў іншых краінах носіць назву "пэчворк", дапамагло ім знайсці кола мілых сяброак і каляжанак. Сам занятак вышыўкай стварае ў гуртку і ў сям'і атмасферу дабразычлівасці і цеплыні, развівае творчыя задаткі ў дзяцей, абуджае фантазію. Гэты від творчасці прызнаюць за частку арт-тэрапіі, якая нават дае шмат станоўчых эмоцыяў, адцягвае хваробы. Таму майстрыхі аб'ядналіся і выказалі сваю ўдзячнасць і пажаданні шчасця роднаму гораду ў выглядзе кветкавых кампазіцый з шаўковых стужак, чырвонабелых крыжоў і іншых матываў.

Мяркуецца, што лепшыя з прац будуць захоўвацца ў Музеі гісторыі Менска па вул. Рэвалюцыйнай.

*Э. Дзвінская.*

**Фота аўтара:**

1. Святлана Мікалаеўна Платунова апавядае пра калектыўную працу

2. Частка выставы.

# Жнівеньскія будні ў ТБК Літвы

У апошнюю суботу жніўня ў ТБК адбылося чарговае мерапрыемства. Яно было прысвечана тым беларускім дзеячам, якія нарадзіліся або памерлі ў жніўні.

На пачатку імпрэзы старшыня ТБК у Літве сп. Хв. Нюнька павіншаваў усіх прысутных з Днём Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

З усіх нацыянльных святаў свята дзяржаўнай незалежнасці - найвялікшае. Незалежнасць - гэта свабода нацыі. Калі свабода страчана, народ пакутуе, бо чыніцца гвалт над яго мовай, сумленнем, культурай і працай. Гонар таму народу і людзям, якія змагаюцца за свабоду і незалежнасць Айчыны.



Сп. Хв. Нюнька зачытаў віншаванне з Днём Незалежнасці ад сп. З. Пазьняка.

У жніўні споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля. Пра творчы і жыццёвы шлях Янкі Брыля прысутным распавёў сп. Артур Юдзіцкі.

Янка Брыль (Іван Антонавіч Брыль) (1917-2006) нарадзіўся 4 жніўня 1917 года ў Адэсе ў сям'і чыгуначніка. У 1922 годзе разам з бацькамі пераехаў на іх радзіму ў Заходнюю Беларусь (вёска Загор'е Карэліцкага раёна Гарадзенскай вобласці), на той час - тэрыторыя Польшчы. Пасля заканчэння семігодкі займаўся самаадукацыяй, бо не меў сродкаў навучацца ў гімназіі. З 1938 года друкаваўся ў віленскім часопісе "Шлях моладзі". У 1939 годзе прызваны ў польскае войска, служыў у марской пяхоце. У верасні 1939 года трапіў у нямецкі палон, адкуль уцёк на радзіму восенню 1941 года, далучыўся да савецкіх партызанаў. З кастрычніка 1942 года - сувязны партызанскай брыгады, з сакавіка па ліпень 1944 года - партызанскі разведчык і рэдактар падпольнай газеты "Сцяг свабоды". З кастрычніка 1944 года жыў у Менску, працаваў у рэдакцыях газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну", журналах "Вожык", "Маладосць", "Полымя", Дзяржаўным выдавецтве БССР. Найбольш вядомыя творы - зборнікі "Ніжнія Байдуны" і "Золак, убачаны здалёк", раман "Птушкі і гнёзды". Я. Брыль вядомы і як перакладчык з рускай, украінскай і польскай мовы.

Герой рамана "Птушкі і гнёзды" Алесь Руневіч - гэта беларус у пошуках ідэальнай Беларусі. Вобраз Руневіча Брыль шмат у чым напісаў з самога сябе - наіўны хлопец з Заходняй Беларусі, прызваны з пачаткам вайны ў польскае войска, трапляе ў нямецкі палон і намагаецца ўцячы адтуль. Урэшце Руневічу з сябрам неверагодным чынам удаецца перайсці да Саветаў, ён робіцца партызанам.

23 жніўня споўнілася 165 гадоў з дня смерці вядомага беларускага паэта, фальклярыста і драматурга Яна Чачота. Са змястоўным дакладам пра жыццё і товорчую дзейнасць Яна Чачота выступіў сп. Зміцер Карачун.

Нарадзіўся Ян Антоні Чачот 7 ліпеня 1796 года ў в. Малюшычы Наваградскага павету Гарадзенскай губерні. Недзе ў 1809 годзе Ян Чачот перабраўся ў павятовы горад Навагрудак, дзе ў 1809-1815 гадах вучыўся ў дамініканскай школе. Тут ён моцна пасябраваў са сваім аднакласнікам Адамам Міцкевічам.

Увосені 1815 года выехаў у Вільню, дзе ў 1816 годзе паступіў на факультэт маральных і палітычных навук Віленскага ўніверсітэта, але з-за фінансавых цяжкасцей правучыўся толькі адзін год. Каб зарабіць на хлеб, працаваў памочнікам віленскага адваката, потым пісарам, працягваў наведваць вольным слухачом асобныя лекцыі Яўхіма Лялявеля і Ігната Даніловіча, вывучаў літаратуру, гісторыю, мовы і асабліва - права. У 1818 годзе залічваецца ў створанае Таварыства філаматаў.

На паэтычным турніры 21 снежня 1818 году Ян Чачот быў прызнаны трэцім паэтам пасля Адама Міцкевіча і Тамаша Зана.

Песні і вершы ён пісаў на народнай гаворцы, паэт сабраў тысячы аўтэнтычных беларускіх песень і выдаў іх у шасці зборніках "Сялянскіх песень..." у перакладзе на польскую мову, восьмую частку з якіх апублікаваў у



беларускім арыгінале. Ян Чачот упершыню паставіў пытанне аб прынцыпах будучага "крывіцкага" правапісу. Пазнейшыя збіральнікі народнай творчасці (А. Кіркор, І. Насовіч, П. Шэйн) у сваіх зборніках актыўна публікавалі запісаны Я. Чачотам фальклорны матэрыял. Яго руплівая дзейнасць па збіранні беларускага фальклору і спробы ўнармавання беларускай граматыкі, паводле польскіх і беларускіх даследчыкаў, з'яўляецца здабыткам беларускага нацыянальнага адраджэння. Вершы паэта актыўна клаліся на музыку яго сучаснікам Станіславам Манюшкам. Усяго на арыгінальныя тэксты і пераклады вусна-паэтычных твораў Я. Чачота кампазітар напісаў 22 песні - болей, чым на словы любога іншага аўтара. Памёр Ян Чачот 23 жніўня 1847 года і пахаваны ў мястэчку Ротніца (цяпер частка Друскенікаў). Напрыканцы даклада, прысутныя паслухалі дзве песні на словы Я. Чачота "Кум і кума", "Вандроўная пташка".



28 ліпеня споўнілася 35 гадоў са дня смерці святара Льва Гарошкі. З вельмі змястоўным і цікавым дакладам, як заўсёды, выступіў сябра Рады ТБК сп. Алесь Адамковіч.

У рэлігійнай гісторыі Беларусі ХХ стагоддзя ёсць шмат выдатных асобаў. Але сярод іх выразна ўзвышаюцца дзве постаці - ксёндз Адам Станкевіч і архімамдрыт Леў Гарошка (26.02.1911 - 28.07. 1977), які нарадзіўся на Міршчыне ў 1911 годзе, у сялянскай сям'і. Вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, шырока вядомай сваёю беларускасцю. У 1931 годзе становіцца студэнтам Львоўскай Грэцка-Каталіцкай Акадэміі.

17 кастрычніка 1937 года з дабраслаўлення мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага і ў ягонай прысутнасці а. Леў быў рукапалажаны ў святары біскупам Мікітам Будкам.

Польскія ўлады імкнуліся знішчыць любыя праявы беларускага жыцця "на крэсах" і а. Леў з-за сваіх беларускіх казанняў шмат разоў пераводзіўся з парафіі на парафію аж пакуль у 1939 годзе не быў выселены загадам навагрудскага ваяводы з г. зв. прыгранічнае паласы. Але паўсюль, дзе яму даводзілася служыць, ён нёс свайму народу Слова Божае на роднай мове і сеяў зерне святое Уніі, некалі гвалтам чужынцаў адабранае ў народа. Не спыняе а. Леў сваёй працы і пасля "уз'яднання" Заходняе Беларусі з СССР.

Калі ўвесну 1940 года ва ўмовах саюзнага падполля а. Антон Неманцэвіч прызначаецца першым у ХХ ст. грэкакаталіцкім Экзархам Беларусі, а. Леў Гарошка становіцца ягоным намеснікам. Падчас нямецкай акупацыі вымушаны працаваць на настаўніцкіх курсах, у школе, газетных рэдакцыях ды інш. У канцы вайны, разам з хваляй эміграцыі апыняецца на Захадзе: спачатку ў Берліне, а пасля ў Мюнхене, дзе арганізоўвае беларускія душпастырствы.

На эміграцыі пачынаецца самы дзейсны перыяд жыцця айца Льва. У 1946 годзе выдае ў Рыме малітоўнік "Божым шляхам". Ад 1947 года распачынае выданне часопіса



"Божым шляхам", да 1957 года з'яўляецца яго рэдактарам. У 1959 годзе ўступае ў Ордэн айцоў Марыянаў, праз год біскупам Ч. Сіповічам прызначаецца першым рэктарам Беларускай Каталіцкай Місіі ў Вялікабрытаніі. У 1962-69 гг. - ігумен ордэнскага дома аа. Марыянаў у Лондане. У 1965 годзе атрымоўвае годнасць Архімандрыта. У 1970-77 гг. а. Леў кіруе беларускай секцыяй радыё Ватыкана і з'яўляецца рэктарам Беларускай Каталіцкай Місіі ў Францыі.

Памёр Леў Гарошка 28 ліпеня 1977 года.

На заканчэнне сустрэчы рэдактар і вядовец штотыднёвай беларускамоўнай перадачы на дзяржаўным радыё Літвы сп. Андрусь Старавойтаў распавёў пра палітычнае становішча ў Беларусі, выказаў свае погляды на выбарчы працэс і яго арганізацыю. У дыскусіі прынялі ўдзел многія з прысутных у зале.

На сустрэчы прысутнічалі госці з Беларусі - чальцы стваранай партыі БХД.

***Вацлаў Гульбіновіч,***
*в.а. старшыні ТБК Літвы, Вільня.*

# ПЕСНЯ НАД НЁМАНАМ ПЛЫВЕ

Весела і цікава прайшло ў суботу (25 жніўня) раённае свята ў аграгарадку Пескаўцы. Не першы год праводзіцца на Лідчыне свята "Песня над Нёманам плыве", але яно было экалагічнага кірунку і ладзілася яно ў вёсках Сялец, Беліца і ў горадзе Бярозаўка. А сёлета кірунак змяніўся з экалагічнага на культурна - спартыўны і цэнтрам правядзення сталі Пескаўцы.

Як не памыліліся арганізатары мерапрыемства - раённы метадычны цэнтр народнай творчасці, калі выбралі менавіта гэты аграгарадок месцам правядзення свята! Прыгожы бераг ракі Нёман, навокал - зеляніна і прыгажосць. Сапраўдны райскі куточак і вельмі прыдатны для такога свята. Напэўна, і ўдзельнікі адчувалі сябе выдатна - звонка і душэўна гучалі песні ў іх выкананні. Негледзячы на тое, што не спрыяла надвор'е, свята ўсё ж такі прайшло, але перанеслася з берага Нёмана ў памяшканні сельскага Дома культуры і спартыўную залу школы.

У межах свята былі наладжаны: спартыўныя спаборніцтвы, конкурс выканаўцаў прыпевак, розных жанраў народнага гумару, выстава народных рамёстваў, выстава-продаж дэкаратыўна-прыкладного мастацтва і кулінарных вырабаў, а таксама святочная канцэртная праграма артыстаў Лідскага раёна.







Вельмі ўдала была прадумана праграма культурна-спартыўнага свята. Выступленні калектываў перапляліся з выдатным выкананнем прыпевак прадстаўленых народным сямейным клубам пажылых людзей "Печкі- лавачкі" Сялецкага сельскага клуба і вакальнага гурта народнага хора "Скарбніца" завода "Оптык" горада Ліды. На адным дыханні ўспрымалася гледачамі пачутае са сцэны майстэрства частушачніц. Вось дзе сапраўдныя артысты! Іх цудоўныя прыпеўкі яшчэ як весялілі гледачоў!

Мастацкі калектыў Пескаўскага сельскага Дома культуры на свяце прадставілі сольныя спевы самадзейных артысты з вёскі Пескаўцы, аўтэнтычны дуэт сясцёр Крупа (в. Панямонцы) і бадзёры танец цыгана, і ўсе яны дэмантсравалі свае здольнасці ў выканальніцкім майстэрстве.

Пакарылі гледачоў песні "Заздраўная", "Як бы ў лесе", "У зялёную дуброву", "Кумушкі", "Чаго вада каламутна" ў выкананні вакальнага гурта народнага хора "Скарбніца".

Прадставіў свой канцэртны блок "Вясковыя замалёўкі" народны сямейны клуб пажылых людзей "Печкі - лавачкі" Сялецкага СК. У выдатным выкананні прагучалі песні: "Гэй, іграй гармонік", "Медавуха", "Валы равуць". Удзельнікі сямейнага клуба шыкоўна прадэманстравалі і народны гумар: мініяцюра "Новае жыццё" (паводле сучасных анекдотаў), сцэнка "Стратэгічны запас краіны" (выканаўцы - Савонь В., Грышкевіч Т.) ды і сцэнка пра мужыкоў (выканаўцы - Вельб С., Коска Л.).









Свята ў Пескаўцах атрымалася не толькі песенным, але і спартыўным. Удзельнікамі спаборніцтв з'яўлялася моладзь з вёскі Голдава, Парэчча і саміх Пескаўцаў. Пераможцамі стала каманда з аграгарадка Пескаўцы. Усе каманды былі ўзнагароджаны святочнымі падарункамі ад аддзела культуры Лідскага райвыканкаму.

А госці свята тым часам маглі набыць для сябе сувеніры і абярэгі, якія прапаноўвалі ім майстры дэкаратыўна-прыкладного мастацтва з Ходараўскага Цэнтральнага Дома культуры, Парэчскага сельскага Дома культуры і Сялецкага сельскага клуба.

Прадстаўлена і выстава народных рамёстваў, якая аздоблена самабытнымі посцілкамі, дыванамі, вышыўкамі, зробленымі жыхарамі аграгарадка Пескаўцы (Урабновіч Марыя Аляксандраўна, 1942 г.н. і Варановіч Гелена Браніславаўна, 1932 г.н.).

Грандыёзнае свята скончылася, але надоўга застанецца ў людзей: ўдзельнікаў і гледачоў - незабыўныя ўражанні ад убачаннага і пачутага на гэтым свяце, а таксама чаканне свята ў наступным годзе, бо стала яно ўжо добрай традыцыяй.

**Н. ВАЙЦЮКЕВІЧ,**
*метадыст па этнаграфіі і фальклоры Лідскага раённага цэнтра народнай творчасці.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:* 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Юля Карчагіна, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Язэп Палубятка, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.
http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеной інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 10.09.2012 г. у 10.00. Замова № 1637.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 3850 руб., 3 мес.- 11550 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.